АФИША

## Большой театр готовится удивить

*9 и 10 сентября «Саломея» Рихарда Штрауса откроет 86-й сезон Большого театра Беларуси.*

Уже идут первые репетиции, а создатели оперы уверяют, что эта постановка обещает быть уникальной, новаторской. Даже формат спектакля не совсем обычный. “Опера с хореографическим прологом” – написано в афише.

*“В отличие от других постановок у нашей есть предыстория,* – дает затравку главный режиссер театра Михаил Панджавидзе. *– Под симфоническую поэму Рихарда Штрауса “Так говорил Заратустра” артисты балета расскажут историю Иоанна Крестителя. Его аскетичная жизнь, скитания по пустыне, видения-пророчества, очищение от грехов в водах Иордана, крещение Христа... Сейчас, в свете последних событий в мире культуры – спекуляции на религиозных чувствах, не думаю, что стоит выводить на сцену артиста в образе Спасителя. Поэтому мы будем использовать самые разные световые эффекты, например, солнечный силуэт, проходящий сквозь толпу, и т.д. Если получится, то мне бы очень хотелось попытаться “нарисовать” на сцене известнейшую картину Александра Иванова “Явление Христа народу”, опять же с лучом света вместо фигуры Мессии”.*

Стоит отметить, что над постановкой работает интернациональная команда: дирижер-постановщик – заслуженный артист Украины **Виктор Плоскина**, режиссер-постановщик – обладатель медали Франциска Скорины **Михаил Панджавидзе**, художник-постановщик (сценография, костюмы, разработка концепции видеоконтента) – **Гарри Гуммель** (Россия), балетмейстеры-постановщики – народный артист Беларуси **Константин Кузнецов**, заслуженная артистка Республики Беларусь **Юлия Дятко**, художник видеоконтента – **Павел Суворов** (Россия), художник по свету – **Сергей Шевченко** (Россия). В «Саломее» заняты ведущие солисты оперы и артисты балета Большого театра Беларуси.

Билеты на премьеру уже можно заказать, стоят они от 4,5 до 120 рублей.

**Анна ГОНЧАРИК.**

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

# Гармония жизни Игоря и Елены Бархатковых

У Игоря Бархаткова четыре ипостаси: художник, наследник, коллекционер, конезаводчик. Какая перевешивает? Трудно сказать, Игорь Антонович человек гармоничный, на каждом поприще добился успехов.

Игорь родился в семье известного белорусского живописца Антона Бархаткова. Сохранить его наследие, продолжить традицию реалистического пейзажа считает своим сыновьим и гражданским долгом. Поэтому Бархатков-младший стал не только известным художником, но и известным коллекционером белорусского изобразительного искусства середины XX века.

Но жизнь прекрасна и удивительна: с некоторых пор Игорь – конезаводчик. С женой Еленой, тоже художницей, они давно переехали из Минска за Раков и содержат пять великолепных породистых лошадей. Зачем? Ответ прост и прекрасен: для красоты. Чтобы смотреть и восхищаться. И рисовать, конечно. При этом весь многотрудный уход за животными лежит на их собственных плечах, наемным трудом семья принципиально не пользуется. Что мне особенно нравится: люди ни на что не жалуются. Напротив, по-своему наслаждаются жизнью, постигая великую гармонию красоты и труда.



## Ипостась первая: художник

– Я к себе отношусь критически. К себе и своему творчеству. А когда слышу искусствоведов, удивляюсь: гонят банальщину. Есть уровень – Чегодаев, Алпатов, например. Но в Беларуси таких искусствоведов нет. Могла бы такой стать Татьяна Бембель, у нее есть и личное мнение, и личный взгляд…

Я долго не рисовал, начал в 10-м классе. Но потом искусством просто заболел и стал пахать! В Театрально-художественном (ныне Академия художеств. – **Ред.**) на первом просмотре у меня были все пятерки. Мы с Романом Заслоновым, помню, утром рисовали в институте, а вечером шли копировать в музей. Нам было в кайф! Получали повышенную стипендию и обязательно ездили на лучшие выставки в Москву, Ленинград – хоть на один день.

А летом папа брал меня с собой на Академическую дачу – в дом творчества в Тверской области, где собирались лучшие реалисты Советского Союза. Я писал пейзажи с натуры, а рядом работали выдающиеся братья Ткачевы, Юрий Кугач, Владимир Токарев, Борис Угаров (впоследствии президент Академии художеств СССР. – **Ред.**), он даже брал меня с собой на этюды.

Это был второй институт. Рядом с ними я узнал и увидел все: как писать, как смотреть, что видеть. Как ежедневно трудиться.

Приехал ко мне в мастерскую однажды голландец Петер Нолдус – его пригласил в Беларусь наш художник Андрей Задорин, который сам давно живет за границей и успешно там продается. Он, так сказать, великодушно поделился с нами своими связями. А у Петера две солидные галереи, одна из которых находится на главной улице в Амстердаме. Он так говорил: «Ты можешь быть моим лучшим другом, но если твои картины не продаются, я тебя знать не знаю. Но ты можешь быть сволочью, но если твои картины продаются, я буду с тобой общаться». В общем, бизнесмен.

Посмотрел на мои картины: «Я такой живописи не видел…» У них во всех галереях сейчас такой… недоделанный сюрреализм. А у меня реализм. Сказал: «Что ж, попробую продать». Взял несколько этюдов, простых деревенских мотивов. Уехал. А через день звонит: «Игорь, буду покупать все ваши картины!». Мои холсты продались сразу, хотя из Минска тогда вывез не меньше двух десятков разных художников. Но мои оказались в фаворе: стожки сена, поле, луг, кони на пригорках… У них целое поколение сохранило в памяти свою жизнь 1950-1960-х годов, и наш белорусский пейзаж лег на их сознание. Ностальгия!

В общем, мы могли остаться жить в Нидерландах. Но через два года бросили, уехали. Нет, нам понравилось, как они живут, какие деньги платят за картины. Но – Беларусь! Во всех отношениях нам в Беларуси нравится больше, чем где бы то ни было. И – отец! Он старел, силы покидали его, и оставить его одного было бы предательством. Я был его защитой и опорой.

## Ипостась вторая: наследник

Мой отец, заслуженный художник республики Антон Бархатков, был патриотом Беларуси. Он получил образование в Москве, учился среди лучших художников эпохи.

Папа интересовался только картинами и искусством. Жили скромно. Мы были одними из самых бедных семей, пожалуй. У отца покупали, например, один пейзаж в год. Это 700 рублей на целый год. А ведь художнику постоянно нужны краски, кисти. В общем, на семью из пяти человек денег не хватало, поэтому когда папа наконец стал получать пенсию, мама вздохнула – все-таки 120 рублей ежемесячно.

Папа не любил брать халтуру. Художники ведь как в основном в Советском Союзе зарабатывали? Портретами Ленина! Но к деньгам папа был равнодушен, поэтому заказы на Ленина ему доставались маленькие. Портреты в рост, которые стоили 600 рублей, получали тогдашние народные. Они хорошо их делали, я ничего не говорю… Но папа зарабатывал мало. Помню, мама никогда не покупала 200 граммов масла – только 100 или 70. Режим экономии!

Однако голландский галерист до сего дня говорит: «Лучший художник, которого я видел, – это Антон Бархатков». Но я не продаю его картин, еще не наступило время, когда его и художников его поколения можно продавать. И потом – а что бы я показал к 100-летию отца? И папа, пока был жив, не продавал своих картин частникам. Для моего отца деньги ничего не значили. Вам трудно поверить, но это так. Он из такой нищеты… Был беспризорником, его воспитал начальник ЧК в Москве, подобрал под лавочкой. В войну он побывал в плену, потом партизанил. Ему эти деньги… Он все равно не покупал больше двух яблок. Минимальный человек, квинтэссенция художника. Он даже не подписывал свои пейзажи, потому что писал их для себя, не собирался относить на продажу в салон, это было стыдно, ругательно для большинства советских художников. Главные свои картины они делали на выставки, на заказ от государства.

## Третья ипостась: коллекционер

Папа ушел в 2001-м, и тогда я начал коллекционировать: при нем я не мог покупать чужие работы, это было бы некорректно.

Мое увлечение – старые белорусские художники, папино поколение. Это великое поколение, которое рисовало в миллионы раз лучше, чем все наши современные, лучшие. Их после войны было 50 человек – это белорусское возрождение. Я почти всех знал лично. Так как был членом партии (я вступил еще в армии, до института, а вообще у нас в Союзе художников из молодых были партийными еще только Кожух и Селещук), так вот я присутствовал на партсобраниях, где обычно собирались все мэтры. Это было очень серьезно: говорили только об искусстве.

Часто спрашивают, как ты начал собирать картины? А я начал из патриотизма: если не я, то увезут из страны иностранцы-жулики, и еще обманут вдову художника сто раз.

Я себе линию выбрал, кого покупать: талантливых, но неизвестных, тех, кого просто судьба не вынесла в первые ряды. Вот Карасева, например. Или Ибрагима Гембицкого. Он лучший график середины XX века, но был в оккупации, сложная биография. Владимир Соколов, Федор Барановский, Евгений Красовский, Оскар Марекс... Я хочу восстановить справедливость. Они во многом были лучше иных народных художников.

Когда иностранцы в 1990-х хлынули в Беларусь, то выкупали картины у старых художников целыми мастерскими. За копейки. Вот Кубарев, живописец, художник фильма «Альпийская баллада»: он продавался здесь по 5 долларов, а в Голландии продавали его уже по 1,5 тысячи долларов. Полностью в Италии теперь Петр Крохалев, Раиса и Владимир Кудревичи, Адольф Гугель, Давгяло-старший… Можно долго перечислять тех, кто полностью куплен за границу.

Когда их время придет на Родине? Оно уже пришло. Картины их уже стоят дорого, поэтому иностранцы их уже не покупают. И вообще все лучшее собрано коллекционерами. Теперь за маленький этюд художника середины XX века просят 1000 долларов. Голландский уровень.



## Четвертая ипостась: конезаводчик

Главное в семейной жизни что? Чтобы тебя понимали. Я жену поддерживаю во всех ее увлечениях. Сначала у нас был дом под Осиповичами. Мы его оставили – там не было пейзажа. Плюс жители той деревни любили сильно выпить. Хотя, с другой стороны, любили и пообщаться. В общем, поэты. Персонажи. Выходишь рисовать, они подходили и советовали, как писать.

За Раковом наоборот: вокруг совершенный классный пейзаж, а люди – западники, сдержанный, закрытый народ. Но мы полюбили это место сразу. Наш дом практически на хуторе: вокруг дали бесконечные и церковка на горизонте.

Моя Елена любит одиночество. И животных. Она стала просить лошадку. Курочки есть, собаки. Нужна лошадь. Одежду Елена себе почти не покупает, украшения не носит, косметикой не пользуется. Так почему я должен сопротивляться? Я ведь тоже многого хочу.

Но сначала я подарил ей английскую книжку про лошадей. Шикарную. А потом подошел к делу серьезно: какую лошадь будем покупать? Впрочем, у нас нет вариантов – самую лучшую. Это наша семейная идеология. Мы, как когда-то шляхта, выписывала растения и животных со всего мира. То есть было у людей стремление к высоте и качеству. Я спросил у жены, какую породу? Арабскую. Нашли жеребенка через интернет под Брестом у одного предприимчивого человека.

И Лена начала учиться прямо на ходу, чуть ли не спала-ела с ней рядом. Теперь она суперспециалист.

Посторонние спрашивают: для чего вам лошадь?

Для красоты! Мы кинулись ее рисовать.

Но потом обнаружилась проблема: лошадь – стадное животное. Однажды наша Забава увидела на бугре чужую лошадь и, перепрыгивая все мыслимые и немыслимые преграды, убежала к ней. Хотя высота ограды –130 сантиметров. Взяла! Сделали 150. И полтора метра брала на раз, как только видела другую лошадь.

Ну и вторая появилась. От художника Анджея Струмилло из Польши.

Привезти лошадь из-за границы очень трудно: нужны анализы, которые делают только в Германии. Мы это все преодолели, полжизни отдали. Но вторая лошадь волшебно красивая. Забава успокоилась, стала хозяйкой «стада» – хотя они по возрасту одинаковые. Ходят вдвоем с Чатаби, друг без друга не могут. Если одну забрали помыть, почистить, вторая орет, головой стену проламывает: куда забрали мою девочку? Но когда кобылкам исполнилось четыре года, понадобился жеребец.

Конечно, можно купить замороженную сперму за 6–7 тысяч долларов. Но, оказалось, в Минске нет специалиста по искусственному оплодотворению.

В общем, мы с женой сделали выставку в салоне, продали много картин, а потом полгода сидели в интернете и выбирали себе коня за границей. Взрослого купить не могли, он стоит больше, чем автомобиль. И потом, как себя поведет? Взрослый – агрессивный… Купили жеребенка с великолепной американской родословной, нашли его в Польше: длинная шея, великолепный корпус, как на гравюрах старинных. Шедевр! Цвет почти черный, по-польски «темно-гнядый». И главное, у Фаделя великолепный характер, добрейшее существо. Впрочем, все лошади у нас добрые. Лена никогда не то что не ударила животное, никогда ни одну не поругала. К нам иногда приезжают специалисты из Ратомки, они удивляются: у них лошади кусаются и бьются копытами.

Кобылки сначала как бы усыновили жеребца – он же был ребенок. Но через два-три года жеребец должен стать мужчиной. А этот ходит с ними, как подружка… А кобылам уже по 8 лет! И вот в какой-то момент он наконец исполнил свой долг и родился Чижик, а потом и вторая девочка – Чарка. Жеребчика, конечно, будем продавать, потому что два не уживутся в стаде. А девочку отдавать жалеем. Мы хотим, чтобы в Беларуси не только картины хорошие были, но чтобы и лошади породистые.

Что самое трудное? Прокормить лошадей? Пожалуй, нет. Во все века лошадям нужны лишь трава, солнце и любовь человека.

Самое тяжелое – это все-таки уход. Вообще-то, одну лошадь за границей обслуживают три человека, а Лена одна, все сама. Ездит на тракторе и косит сама. В четыре утра встает, идет в конюшню, выпускает лошадей, чистит за ними. Потом отдыхает, в часов девять становится писать картины.

Обслужить пять лошадей – тяжелая мужская работа. Но Лена помощников не хочет. Она преданно ухаживает за ними, но обратная отдача втрое больше. Вообще, когда Лена выходит во двор, все животные подают ей голос: лошади начинают тихо ржать, куры кудахчут, собаки виляют хвостами. Выхожу я, во дворе тишина. Будем думать, что хотя бы уважительная…

**Елена МОЛОЧКО.**

ПРЭЦЭДЭНТ

# Рэкламная халява

*Прыгожае вясельнае фота маладой пары з Гродна з’явілася на білбордах у Мінску. Аднак пара дазвол на гэта не давала.*

*Ці стане гэта сітуацыя падставай для судовага разбіральніцтва аб парушэнні аўтарскага права?*

Напярэдадні 3 ліпеня каля сталічнага Палаца спорту, на Плошчы Незалежнасці, з’явіліся велізарныя рэкламныя шчыты “Беларусь – краіна шчасця”, на якіх была размешчана прыгожая маладая пара ў нацыянальных касцюмах. Гэтую фатаграфію чытачы «Народнай Волі» бачылі на старонках нашай газеты ў красавіку. Тады выйшла інтэрв’ю “Вяселле ў нацыянальным стылі – гэта модна, актуальна, запатрабавана» з дызайнерам аддзення **Анастасіяй Фальковіч**, якая ставарае па-сапраўднаму непаўторныя строі ў этна-стылі. Матэрыял быў праілюстраваны фатаграфіяй з вясельнай калекцыі Анастасіі, якую яна шыла для **Вікторыі і Міхаіла Петрусевічаў**. Вядома ж, фатаграфія трапіла ў газету са згоды пары і фатографа **Сяргея Марозава**.

І вось гэтае ж фота ўпрыгожыла горад Мінск перед святамі. Што не дзіўна, бо зроблена яно прафесійна, з густам. Але, як высветлілася, мінскае рэкламнае агенцтва, якое прыдумала білборд, скарысталася фатаграфіяй, можна сказаць, з сямейнага альбома без дазволу пары і, безумоўна, ні капейкі не заплаціла Петрусевічам.

*– «Беларусь – краіна шчасця» Так то яно так, але... высвятляецца, што хтосьці без згоды размяшчае фота маіх кліентаў-маладажонаў у роліку па тэлевізары, на білбордах горада, але ні яны, ні фатограф пра гэта не ведаюць,* – абурылася дызайнер Анастасія Фальковіч. *– А супрацоўнік рэкламнага агенцтва кажа, што фота ўзяў з інтэрнэту і аддаў у работу. Як гэта разумець?! Што гэта за беларуская магія да халявы?! Ну колькі можна?!*

*Магчыма, гэта вельмі «крута» – упрыгожваць на святы вуліцы гарадоў. Аднак вы спытайцеся, а ці хочуць Віка і Міхаіл, каб іх фота былі менавіта тут і менавіта ў такім выглядзе? Хачу я, каб мая работа ўпрыгожвала свята? Між іншым, кліенты яе аплацілі і мне, і фатографу! А вось рэкламнае агенцтва не пажадала нават пацікавіцца, ці можна скарыстацца гэтай фатаграфіяй?*

*Я ўжо даўно не дзіўлюся, што ў нас халява і бесцырымоннасць у крыві. Але ж, можа, хопіць красці чужыя ідэі?! Вось вазьміце і найміце фатографа, найміце мадэляў і зрабіце афігенны рэкламны фотасет для «Краіны шчасця». Слоў няма... Каб вы разумелі, Віка і Міша вельмі цудоўныя людзі, добрыя і прыстойныя і я думаю, што калі б іх папрасілі, яны б далі згоду на білборд падобнага роду, а так – атрымалася вельмі непрыгожа.*




Сябры параілі Вікторыі і Міхаілу патрабаваць з рэкламнага агенцтва кампенсацыю за незаконнае (без дазволу) выкарыстанне іх фатаграфіі, маўляў, у дадзенай сітуацыі відавочнае парушэнне аўтарскіх правоў. І Петрусевічы звярнуліся за кансультацыяй да юрыстаў. Праўда, яны пакуль не хочуць каментаваць гэтую сітуацыю. Тым больш што хтосьці ўбачыў у ёй палітычны кантэкст, і нават некаторыя выказванні маладой пары (кшталту таго, што іх сцяг гэта бел-чырвона-белы і што з надпісам, пад якім размясцілі іх фота, яны не зусім згодны) прыраўнялі да дзяржаўнай здрады. Хаця відавочна, што пара жадае толькі нагадаць дзяржаўным структурам, што мы жывём у цывілізаванай краіне, і аўтарскае права ў Беларусі ніхто не адмяняў. Як, дарэчы, і свабоду меркавання.

*– Магчыма, справа і дойдзе да суда, калі не ўрэгулююць усё ў дасудовым парадку,* – кажа Анастасія Фальковіч. *– А увогуле, звычайна, калі агенцтва альбо фатограф размяшчаюць або прадаюць фатаграфіі, яны з кожным чалавекам, які фігуруе на фота, складаюць дамову. Няўжо сур’ёзнае агенцтва, якое робіць рэкламу для Мінска, не ведае такіх відавочных рэчаў?! Мабыць, рабілася ўсё, як звычайна, у спешцы: о, класная фотка, супер, размяшчаем. Але з такой практыкай трэба развітвацца, трэба пераходзіць на цывілізаваныя стасункі.*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

СЛОВА ПРА СЯБРА

# Таленавіты, высакародны, дасціпны

*Такім застаўся ў памяці кампазітар, народны артыст Беларусі **Эдуард Зарыцкі,** які пайшоў з жыцця 40 дзён таму.*




Добры лёс падараваў мне нямала сустрэч, творчых кантактаў, сумесных паездак з артыстам. Зрэшты, з іх, шматлікіх, так бы мовіць, дзелавых, вандровак і пачыналіся нашы, па сутнасці сяброўскія, стасункі. У 1986 годзе Эдуард, каго ў колах творчай інтэлігенцыі проста і сардэчна называлі Эдзікам, знайшоў мяне і прапанаваў разам з ім і Яраславам Еўдакімавым выступаць па лініі кнігалюбаў (была такая арганізацыя) з канцэртамі. Тады ён з сям'ёю жыў у Зялёным Лузе, недалёка ад мяне. Якая мне адводзілася роля ў нашай тройцы? Чытаць вершы. Якраз быў час гарбачоўскай перабудовы, як мне тады здавалася, "пара выгнання з кабінетаў усіх дзялкоў і прайдзісветаў, пара высакароднай мэты і непадкупнага пяра!". Я падзякаваў Зарыцкаму і даў згоду выступаць, разумеючы, вядома, сваю адказнасць запявалы: я павінен быў распачынаць канцэрты.

З Эдуардам было зручна і камфортна ў любой дарозе, у любым гатэлі і перад любой публікай. Паўсюль ён быў дужа надзейны – і за рулём сваёй легкавой (мы за два гады аб'ездзілі амаль усю Беларусь), і на сцэнах перад перапоўненымі заламі. У палацах культуры збіралася па 500–700 чалавек. Людзі за маленькую плату (уваход каштаваў адзін савецкі рубель) ахвотна ішлі развеяцца ад палітычнай неразбярыхі, хоць на нейкія імгненні адысці ад змрочных падзей – афганскай бойні, дзе калечыліся і гінулі нашы хлопцы, паслячарнобыльскай смуты, рассакрэчанай трагедыі Курапатаў…

Праграма Зарыцкага ўсякі раз папярэднічала выступленню Еўдакімава. Ужо тады шырокавядомы кампазітар знаёміў слухачоў-гледачоў з залацінкамі сваёй творчасці, акампаніраваў і напяваў (дарэчы, у яго быў добра пастаўлены голас) па куплеце і прыпеве з шэрагу песняў на вершы Ніла Гілевіча, Уладзіміра Някляева, Сяргея Грахоўскага, Уладзіміра Карызны ды іншых беларускіх паэтаў, распавядаў цікавыя гісторыі з жыцця і шматграннай дзейнасці кампазітара.

Я нярэдка бываў дома ў Эдуарда, любаваўся ідэальнай атмасферай у яго сям'і, чуў ласкавы голас ягонай жонкі Таццяны, і, калі б не ведаў, ніколі не падумаў бы, што яна пакутавала ад высокага артэрыяльнага ціску; бачыў, як захапляецца музыкай і спевамі дачушка Лінaчка, тады яна паступіла ў музычнае вучылішча.

Пазней, калі не стала Таццяны, а Ліна выйшла замуж, Эдуард пераехаў у бацькоўскую кватэру (раён плошчы Перамогі). Тут ён даглядаў свайго бацьку Барыса Артамонавіча, выдатнага майстра па рамонце гадзіннікаў. Гэта быў рослы, хударлявы, сімпатычны чалавек, які, калі быў маладзейшы, любіў іграць на трамбоне і скрыпцы. Дарэчы, у дзяцінстве, не выпадкова будучага кампазітара прымушалі іграць на скрыпцы; пасля хлопчык прафесійна асвойваў баян і раяль. Увогуле ўся сям'я Зарыцкіх не абыходзілася без музыкі. Мама Эдуарда, Ала Навумаўна, добра іграла на фартэпіяна і спявала, а працавала ў дзіцячым садку, праводзіла заняткі музыкі і спеваў. Сястра Эдуарда, Яўгенія, выхавала ў сабе дзіцячага кампазітара. Яна пражывае ў Санкт-Пецярбургу. Добрым спецыялістам, займеўшы беларускую музычна-педагагічную адукацыю, стала Ліна, дачка Эдуарда і Таццяны Зарыцкіх. Яна цяпер жыве ў Германіі (зямля Спаарланд). Там прадаўжальніца вядомай дынастыі музыкантаў працуе з харамі і салістамі, дае канцэрты. Ганарыцца бацькам. Аказваецца, ён пералажыў для фартэпіяна сусветныя хіты, перадаў дачцэ неацэнныя рукапісныя ноты.

А сваю музыку Эдуард ствараў натуральна, як дыхаў. Што да нашых творчых кантактаў, то яны пачаліся з 1998 года, калі ён зацікавіўся асобай Адама Міцкевіча. Папрасіў паказаць яму пераклады вершаў і санетаў нашага польскамоўнага генія. Я прынёс усё, што на той час меў. І неўзабаве Эдуард пазнаёміў мяне з мелодыямі ладнага цыклу песняў "Адкажы, родны Нёман". Гэты цыкл прагучаў у вялікай зале філармоніі нашай сталіцы – да двухсотгоддзя з дня нараджэння Міцкевіча. Зладзіў праграму Міхась Фінберг са сваім цудоўным калектывам музыкантаў і артыстаў-спевакоў.

Пазней Эдуард Зарыцкі прыглядзеўся да маіх вершаў, у выніку ў нас з ім з'явіўся шэраг песняў: "Трэлі салаўя", Імклівая рака", "Любімы мой" ды іншыя. Іх пранікнёна выконвае Галіна Грамовіч. Апошні сумесны твор мы здзейснілі ў 2017 годзе, юбілейным для слынных песняроў зямлі беларускай, народных паэтаў Бацькаўшчыны – Коласа і Купалы.

Эдуард выдатна адчуваў красу роднай мовы, быў дужа патрабавальны да аўтараў вершаў, якія станавіліся ці маглі стаць песнямі.

У апошнія гады знакаміты кампазітар усё часцей звяртаўся да твораў нашых класікаў – Янкі Купалы, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна. Як правіла, у мяне браў зборнікі неабходных яму вершаў. Шчымліва-ўзрушальна гучыць песня "Будзьма" (словы Рыгора Барадуліна) у выкананні Якава Навуменкі. Яна ў нейкім сэнсе прарочая ў адносінах да лёсу ўсёй знанай тройцы. Не стала Навуменкі, пасля – Барадуліна. Няма ўжо з намі і Зарыцкага. А песня адбылася. Ёсць і будзе! Бо яна – з кагорты неўміручых твораў, якіх у спадчыне Эдуарда Барысавіча багата.

Я нярэдка бываю ў Доме дружбы, куды нас з Эдуардам некалі ласкава ўвяла Ніна Сямёнаўна Іванова, дырэктар гэтай дружалюбнай установы: ён разам са мною шчыраваў у таварыстве "Беларусь–Украіна". Перад кожнай вечарынай, якіх тут ладзіцца багата, гучыць лагодная тэматычная песня на словы Сяргея Панізьніка, крылы якой даў ён жа, Эдуард Зарыцкі.

Сэрца знанага кампазітара адгукалася на самыя розныя праявы, падзеі, справы. У 2017 годзе мне пашанцавала з ім прыняць удзел у двух турах "Залатой калекцыі беларускай песні", якой шмат гадоў запар займаецца Сталічнае тэлебачанне з нястомна ўлюбёнай у музычнае мастацтва Людмілай Палкоўнікавай. У жніўні мы пабывалі ў старажытным Полацку, а ў лістападзе – у Маладзечне. Гучалі нашы песні, і мы выходзілі на паклон. На такія паездкі ён не шкадаваў ні часу, ні сіл. І на дарогу ў два канцы ў яго ставала запасу добрых жартаў, анекдотаў, усмешак. "Таленавіты, высакародны, дасціпны" – так пра яго думаюць многія.

Цяпер мы ўсе, хто добра ведаў Эдуарда Зарыцкага, зразумелі ягоную мужнасць – сястрыцу вялікай любові да людзей. Як сказала мне спадарыня Ліна, анкалогія выявілася ў лютым. Ды нават самым блізкім сябрам ён не казаў пра гэта. Нават М.Я. Фінбергу, з кім штодня перамаўляўся, сказаў пра бяду тыдні за два да зыходу… Дачка хацела прыехаць з замежжа, каб дапамагаць, ды ён забараніў, сказаў: "Я толькі больш буду перажываць!" Ён перанёс дзве хіміятэрапіі, праз тыдзень, 14 чэрвеня, збіраўся прайсці трэцюю. Але не вытрымала сэрца.

Успамінаецца такі факт: працяглы час Эдуард даглядаў нямоглага жончынага бацьку, які пасля доўга прабыў у коме. Нялёгкі гэты крыж пранёс і ён мужна, да канца. Яго высакароднасці не было мяжы. Пэўна, найперш таму музыка ЗАРЫЦКАГА дапамагае людзям жыць.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

ШАШКІ

## З юбілеем, гросмайстар!

Маскоўскі гросмайстар беларускага паходжання, трохразовы чэмпіён свету **Уладзімір Матус** нядаўна адзначыў свой 70-гадовы юбілей. Да нядаўняга часу Уладзімір Паўлавіч займаў пасаду намесніка генеральнага дырэктара міжнароднай юрыдычнай кампаніі. Зараз спыніў сваю адвакацкую практыку. Нядаўна мы знаёмілі нашых чытачоў з яго родным братам **Пятром Матусам** – членам-карэспандэнтам АН Беларусі. А сёння прапануем аматарам шашак творы знанага гросмайстра, якія ён прапанаваў спецыяльна для нашай рубрыкі.



№1 **Белыя**: 11, 12, 14, 20, 36, 37, 41 (7).
**Чорныя**: 1, 13, 25, 26, 28, 30, 38 (7).
12-7, 32, 6 (5**А**), 31, 1, 46 х. **А**(10), 31, 1, 4 х.
№2 **Белыя**: 11, 16, 17, 26, 37, 43, 44 (7).
**Чорныя**: 1, 8, 14, 22, 28, 30, 33 (7).
6, 7, 1(39), 3(50), 44, 37 х.
№3 **Белыя**: 26, 30, 33, 34, 37, 39, 41, 42, 43, 44 (10).
**Чорныя**: 8, 11, 14, 17, 18, 19, 21, 24, 27, 31, 35 (11).
33-29, 28, 22, 6(36), 42-38, 1, 23(46), 5 х.

## Літоўская мініяцюра з Іспаніі

Наступная міні належыць літоўскаму гросмайстру з Іспаніі **Валдасу Беляўскасу**.

№4 **Белыя**: 6, 17, 23, 29, 42, 46, 50 (7).
**Чорныя**: 8, 10, 20, 30, 36, 39, 43 (7).
38, 41, 1, 19, 44, 6, 15 х.

## 100-клетачны россып

Далей 100-клетачныя творы **Івана Наўроцкага** з Мінска.

№5 **Белыя**: 18, 19, 22, 29, 31, 49, 50 (7).
**Чорныя**: 8, 27, 30, 36, 38, 39, 40 (7).
50-44, 44, 9, 3, 22 х.
№6 **Белыя**: 17, 20, 21, 22, 23, 24, 27, 30 (8).
**Чорныя**: 7, 9, 15, 26, 32, 37, 38, 43 (8).
24-19(35**А**), 14, 11, 2, 48 х. **А**(13), 11, 2, 24, 48 х.
№7 **Белыя**: 17, 20, 21, 22, 23, 24, 27, 29, 30, 47 (10).
**Чорныя**: 7, 8, 15, 16, 26, 32, 33, 38, 40, 42 (10).
11, 2, 13(21), 2, 30, 27, 27 х.
№8 **Белыя**: 14, 16, 19, 21, 23, 24, 30, 41, 42, 46, 47 (11).
**Чорныя**: 2, 4, 8, 13, 22, 31, 32, 33, 35, 38, 40, 43 (12).
17, 7, 18, 9, 41-37, 9, 13, 13, 41, 4, 49 х.

## Прывітанне ад старога сябра



У якасці заданняў чарговага бліц-конкурсу прапануем пазіцыі мінскага майстра **Мікалая Грушэўскага (**№№9–12**)**. Нагадаем што Мікалай Мікалаевіч да нядаўняга часу быў вядучым шашачнага аддзела "Народнай Волі".

№9 **Белыя**: дамка e1, шашкі d2, e3, h6, g7 (5).
**Чорныя**: дамка c1, шашкі h4, a5, b6, b8, f8 (6).
№10 **Белыя**: h2, c5, b6, a7, c7 (5).
**Чорныя**: f2, e3, e7, g7, d8 (5).
№11 **Белыя**: a1, a3, e3, g3, f4, e5, d6 (7).
**Чорныя**: h2, c3, a5, b6, a7, g7, d8 (7).
№12 **Белыя**: b2, h2, a3, c3, b4, a5, b6 (7).
**Чорныя**: f2, g3, f4, d6, f6, b8, d8, f8 (8).
Знайдзіце выйгрыш белых пры іх першым ходзе.

## Выпрабаванне ад вядучага

На заканчэнне новыя творы-64 вядучага рубрыкі "Шашкі".
№13 **Белыя**: g1, e3, g5, f6, e7, g7 (6).
**Чорныя**: c3, g3, b4, b6, d8, h8 (6).
f4, b2, a3, a7(e5), b8(d4), g3, c5 х.
№14 **Белыя**: g3, b4, a5, c5, e5, b6 (6).
**Чорныя**: g5, h6, a7, g7, b8, h8 (6).
h4(f6, f6), c7, e7, f6(b6, b6), e7(g5), f8(f4), h6(a5), e3, c1 х.
№15 **Белыя**: a1, h4, a5, e5, g5, d6, f6, h6 (8).
**Чорныя**: b2, f2, c3, b4, a7, g7, b8, f8, h8 (9).
de7, c1, ab2, a3, g5, b6, g1 x

## Супаставім рашэнні

"Народная Воля" ад 5 чэрвеня 2018 года.
№7 – b8, e7, f6(g7**A**), e5, f8 x. **A**(g3), e7, b-a3-h2 x.
№8 – b8, c7, a5, h4, b4(e3), e1(b6), g7(a5/c5), f8 x.
№9 – d8, e1(f2), b4, e5, e7, g1 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка)**, Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Рыгор Краўцоў** (в. Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Панько** (Камянец). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, "Шашкі"*** або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com.***

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Разлятаюцца



Вось апошнія навіны з таго, што адбываецца на хакейным фронце. Не самыя прыемныя.

Беларускі нападаючы **Мікіта Феакцістаў**, які падпісаў у мінулым сезоне кантракт з уладзівастоцкім "Адміралам", зараз не будзе лічыцца легіянерам у расійскім клубе. Чаму? Таму што выхаванец гродзенскай школы хакея заяўлены за каманду з Далёкага Усходу як грамадзянін Расіі. У мінулым сезоне 28-гадовы форвард правёў 13 матчаў у ВХЛ за "Рубин", пасля чаго атрымаў траўму і выбыў да канца сезона. Пакуль ён не мае вопыту выступлення ў КХЛ, але змена грамадзянства дала яму такі шанц. Як бачым, чалавек доўга не вагаўся.

Таксама стала вядома, што адмовіліся ад беларускага грамадзянства беларускія хакеісты **Ілья Шынкевіч** і **Мікалай Стасенка**, якія будуць выступаць за падмаскоўны "Витязь".

Яшчэ раней далі дзёру ў Расію капітан зборнай Беларусі **Андрэй Стась** *(на фота)* і **Мікіта Камароў.**

Як бачым, сітуацыя калі не крытычная, то радаваць яна не можа. Пабудаваная ў Расіі сістэма абмежавання ў клубах замежных хакеістаў вымушае многіх беларускіх ігракоў выбіраць паміж паняццямі "інтарэсы зборнай" і "добрыя грошы ў Расіі". Апошнія, як вядома, паху не маюць, таму некаторыя робяць свой выбар не на карысць нацыянальнай каманды. Не збіраюся іх асуджаць, але факт застаецца фактам – усё больш хакеістаў прымаюць расійскае грамадзянства, а значыць, не маюць права выступаць за зборную Беларусі.

Гэта іх выбар. А вось што балельшчыкі думаюць пра гэта на спартыўных форумах:

*"Тое, што Мікалай Стасенка змяніў грамадзянства і не будзе выступаць за зборную, не шкада, бо ён ужо немалады хакеіст. Але іншае абурае: аднабаковыя правілы Расіі ў Саюзнай дзяржаве. Навошта тады такія саюзнікі патрэбны? Такія малайцы, яшчэ аднаго суперіграка ў вялікай камандзе Беларусі вывелі са строю. Камерцыйны праект у іх – КХЛ. А потым здзіўляюцца, чаму іх так не любяць…";*

*"Непрыемны сам факт таго, што пабудавана сістэма, якая наўпрост схіляе хакеіста змяніць грамадзянства. Усё-такі адна справа, калі іграку не знаходзіцца месца ў сваёй зборнай, і ён шукае варыянты ў іншых краінах, і зусім другая, калі іншая краіна адмыслова стварае такія ўмовы, каб грамадзяне суседзяў прымалі чужое грамадзянства";*

*"Пачнём з таго, што той жа Стасенка нарадзіўся ў Расіі. І Мікалая асабіста я зразумець магу: у зборнай Беларусі ён ужо асабліва не патрэбны, а грошай пад спартыўную старасць трэба назбіраць. А вось учынак Шынкевіча не разумею, бо ён жа карэнны беларус, выступаў за зборную. Як так можна?"*

*"А чаму маўчыць Федэрацыя хакея Беларусі? Няхай тыя хакеісты, якія прымаюць рашэнне змяніць грамадзянства, вяртаюць грошы, якія былі на іх патрачаны ў краіне. Няхай разлічацца за тое, што іх вучылі за кошт дзяржавы, а затым выступаюць за нашых спартыўных сапернікаў. Плаціце – і валіце!"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ФУТБОЛ

# БАТЭ набірае ход

*Адбыліся матчы 16-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*



Вось іх вынікі: "Слуцк" – "Гомель" – 0:1, "Мінск" – "Прамень" (Мінск) – 3:1, "Смалявічы" – БАТЭ (Барысаў) – 2:3, "Віцебск" – "Нёман" (Гродна) – 5:1, "Тарпеда" (Мінск) – "Іслач" (Мінскі раён) – 1:1, "Днепр" (Магілёў) – "Гарадзея" – 1:2.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 16 | 13 | 2 | 1 | 28–10 | 41 |
| Віцебск | 16 | 10 | 4 | 2 | 25–10 | 34 |
| Дынама (Мн) | 15 | 10 | 4 | 1 | 20–7 | 34 |
| Шахцёр | 15 | 8 | 5 | 2 | 16–5 | 29 |
| Слуцк | 16 | 8 | 3 | 5 | 18–11 | 27 |
| Дынама (Бр) | 15 | 6 | 7 | 2 | 27–17 | 25 |
| Нёман | 16 | 7 | 4 | 5 | 17–18 | 25 |
| Тарпеда-БелАЗ | 15 | 7 | 3 | 5 | 15–11 | 24 |
| Іслач | 16 | 3 | 8 | 5 | 9–14 | 17 |
| Мінск | 16 | 3 | 6 | 7 | 18–20 | 15 |
| Смалявічы | 16 | 3 | 5 | 8 | 13–17 | 14 |
| Гомель | 16 | 3 | 4 | 9 | 7–21 | 13 |
| Тарпеда | 16 | 2 | 5 | 9 | 7–20 | 11 |
| Днепр | 16 | 2 | 5 | 9 | 9–21 | 11 |
| Гарадзея | 16 | 2 | 5 | 9 | 11–22 | 11 |
| Прамень | 16 | 2 | 4 | 10 | 12–28 | 10 |

**P.S.** *У табліцы не ўлічаны вынікі матчаў: "Дынама" (Брэст) – "Шахцёр" (Салігорск), "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Дынама" (Мінск).*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

# Шаноўныя прыхільнікі «Народнай Волі»!

Дзякуй за тое, што азнаёміліся з матэрыяламі гэтага нумара.

Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы. І, вядома ж, новыя тэмы, героі, адрасы для будучых цікавых публікацый.

З Вашай дапамогай старонкі "Народнай Волі" змогуць быць яшчэ больш змястоўнымі і арыгінальнымі.

Чакаем Вашых званкоў па тэл.: **(8-017) 328-68-71.**

**Рэдакцыя.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

9 772071 964000 18056

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 16.07.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 231 экз. Заказ № 2605.